




*Хлеб не падаражэе? Зарплату выдадуць своечасова? Каровы атрымаюць танны камбікорм?*

ст.3

*Старшыня Партыі Свабоды Сяргей ВЫСОЦКІ:*

***"Нашыя хлопцы сьвядома ідуць на ахвяры за свае погляды..."***

ст.2






7 і 8 верасьня будзе хмарна. Чакаюцца караткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер усходні, 6-11 м/сек, парывамі да 12-14 м/сек. Тэмпература паветра ўначы 7-12 градусаў, удзень - 14-19. У нядзелю - да 24 градусаў цяпла.


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

№ 35 (182) • 6 — 12 верасьня 1996 г. • Кошт свабодны


## 8-е ВЕРАСЬНЯ – ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

**8 верасьня Гарадзенская Рада Народнага Фронту запрашае жыхароў і гасьцей горада адзначыць Дзень Беларускай Вайсковай Славы.**

Гарадзенскія ўлады ўнесьлі свае карэктывы ў планы арганізатараў акцыі. У прыватнасьці, забаронена сьвяточнае шэсьце. А час пачатку мітынгу каля памятнага знаку "Пагоня на Грунвальд", што знаходзіцца ў Новым парку побач Каложскай царквы, перанесены на 16 гадзін.

## ЗА ШТО ЗЬНЯЛІ КРУПЕНКУ

**"ПАГОНЯ" ужо паведамляла пра першы этап рэферэндуму: татальнае выяўленьне сярод "вертыкалі" людзей нелаяльных, альбо тых, хто ня ў стане забясьпечыць неабходны вынік.**

Магчыма, адным з іх у вачах Прэзідэнта стаў гарадзенскі мэр Генрых Крупенка, які ў мінулым годзе "заваліў" майскі плебісцыт. Тады, нагадаем, у адным з раёнаў Горадні рэферэндум увогуле не адбыўся.

Фармальнай падставай для зьняцьця Крупенкі сталася "ігнараваньне думкі грамадзян... пры прыняцьці і рэалізацыі рашэньня... аб стварэньні ліцэя N 1 на базе СШ N 27". Прэзідэнт звольніў з працы таксама дырэктара ліцэя Л.Шостку (працавала на гэтай пасадзе 1 месяц) і загадчыцу Ленінскага РАНА Л.Маляўку. Строгую вымову атрымала загадчыца аддзела адукацыі гарвыканкаму Л.Папенюк. Папярэджаны "о недопустимости" старшыня аблвыканкаму А.Дубко і міністр адукацыі В.Стражаў...

Не зьдзіўляе ні неадэкватнасьць пакараньня "грубым нарушениям", ні дзікая незаконнасьць Указу (Г.Крупенка, напрыклад, зьяўляецца дэпутатам гарсавету, і Лукашэнка бяз згоды Савету ня меў права яго звальняць). Нават тое, што дырэктарам школы заняўся сам Прэзідэнт разам з "сотрудниками аппарата Совета Безопасности" не зьдзіўляе. Сэнс "экзэкуцыі" у тым, каб дадаць гарачага жаданьня "вертыкальшчыкам" паспаборнічаць паміж сабой у зборы звышпрацэнтаў на бацькавым рэферэндуме.

Як бачым, сапраўды, "всё течёт, но ничего не меняется". Пасьля "разгрома врагов" таталітарная ўлада прыступае да самаедзтва. З чым яе шчыра і можна павіншаваць.

Аматараў далейшых прагнозаў раім яшчэ раз перачытаць "вечна жывы" "Краткий курс ВКП(б)". Усё новае - гэта добра забытае старое!

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

## ГЭТА ВАМ ЗА ПАЗЬНЯКА З НАВУМЧЫКАМ!

**ПРАВАКАЦЫЯ ІЛЮХІНА-ЖЫРЫНОЎСКАГА АТРЫМАЛА ПРАЦЯГ ПАД УМОЎНАЙ НАЗВАЙ "ТОПОРНАЯ РАБОТА"**

**СКАНДАЛ**

30 жніўня сьпікер беларускага парламанту С.Шарэцкі азнаёміў карэспандэнтаў з лістом, атрыманым па пошце са Злучаных Штатаў Амерыкі ад нейкага містэра Мэцью. Таямнічы пан шле Шарэцкаму мільён даляраў і абяцае яшчэ адзін для ўсёй сям'і сьпікера. Адначасова містэр Мэцью выказвае спадзяваньне, што сумесныя планы па нізьвяржэньні ўсенароднаабранага Прэзідэнта Беларусі ў хуткім часе спадар сьпікер увасобіць у жыцьцё. Дзеля гэтага ў Менск прыбудзе замежны эмісар. "А пасьля выкананьня працы, - піша далей заакіянскі дзядзька, - мы з Вамі адпачнем у Маямі".

Узрушаны С.Шарэцкі назваў ліст правакацыяй супраць яго асобы. Можна дадаць, што і супраць усяго Вярхоўнага Савету. На жаль, гэта ня першае і, вядома, не апошняе падобнае дзеяньне. Ужо былі падрыўныя замахі турэцкіх амбасадараў, стральба пад Ліёзна, мінаваньне парламанту, зьбіцьцё паветранага шару, міліцэйская машына ў якасьці прыманкі для дэманстрантаў, страляніна па дэпутату В.Ганчару, зьбіцьцё жонкі журналіста Ю.Дракахруста. Да гэтага можна дадаць галандзкую газету з пасквілем на Шушкевіча і сьцюардэсу, у якой скралі вібратар... Традыцыя высмактаная з пальца правакацыі працягваецца.

Ды якая ж замежная сьпецслужба, набыўшы агента, адразу яго раскрывае? Выкідвае мільёны даляраў за яшчэ невыкананую працу? Што, за акіянам сядзяць ёлупні, якія ня ведаюць кансьпірацыі? Усе гэтыя пытаньні нават без адказаў сьведчаць пра выключную недарэчнасьць правакацыі.

Аднак, менавіта ў тым яе мэта. Скарыстаны класічны прыём Гебельса: чым казачней хлусьня, тым больш ёй вераць. Асабліва цікава выглядае такая падрабязнасьць, як кошт сьпікера разам з парламантам. Міжволі запаважаеш Прэзідэнта - яго зьдзелка з Расеяй каштуе 1 млрд. даляраў.

"Утка" В.Ілюхіна і У.Жырыноўскага працягвае разьвівацца. Цікава будзе паглядзець на эмісара, які прыедзе з мільёнам даляраў у кейсе. Ёсьць прапанова запрасіць на перадачу грошай Шарэцкаму "чэсных" журналістаў і паказаць народу па TV новы фільм пад назвай "Сквапнасьць і здрада: дзеці аграпраму".

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## А МАСТАКІ "ОТ СОХИ" - СУПРАЦЬ

Вельмі сур'ёзны дакумант апублікавала газета "Беларуская ніва". Заява 5 членаў Аграрнай партыі мусіць "страсянуць" фундаментальныя асновы гэтай самай уплывовай на вёсцы палітычнай арганізацыі. Падпісанты - мастак У.Гардзееня, навуковы супрацоўнік В.Зелянеўскі, літаратар У.Іскрык, рэжысёр А.Курловіч і кампазітар А.Чыркун - у адкрытым лісьце Цэнтральнаму Савету Аграрнай партыі не на жарт устрывожаны тым, што лідар партыі і сьпікер парламанту С.Шарэцкі прыняў удзел у "круглым стале" разам з БНФ і сацыял-дэмакратамі і, да таго ж, выступае за парламанцкую рэспубліку.

Гэта ж да якой крамолы дакаціліся лідары Аграрнай партыі! Зусім не арыентуюцца ў праблемах сяла: "дазваляюць прысвойваць беларускую зямлю ўсім, хто яе не апрацоўваў, не вядуць прапаганды супраць перадзелу ўласнасьці", не разумеюць, што лепш ва ўсім пагаджацца з главой выканаўчай улады.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

## "АЖАНІЛІ" КЕБІЧА ЗАВОЧНА

2 верасьня на сесіі Вярхоўнага Савету дэпутат Валеры Мініч заявіў, што ён не падпісваў вядомы зварот групы дэпутатаў, апублікаваны ў дзяржаўным друку ў падтрымку рэферэндуму. Таму ён патрабаваў у рэдактара "Народнай газеты", прызначанага Вярхоўным Саветам Леаніда Юнчыка, разабрацца ў сітуацыі і ў бліжэйшым нумары даць абвяржэньне. С.Шарэцкі дадаў, што ня так даўно яму тэлефанаваў В.Кебіч, які таксама паведаміў, што не падпісваў гэты дакумант.

**Л.В.**

## УКРАІНЦЫ - ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗЬНІ

Чатыры месяцы ў беларускай турме за ўдзел у санкцыянаваным уладамі шэсьці "Чарнобыльскі шлях-96" утрымліваюцца сем украінскіх грамадзянаў. З гэтай нагоды 27 жніўня з заявай выступілі старшыня БНФ Зянон Пазьняк і прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэту за мяжой Сяргей Навумчык. "Па нашым глыбокім перакананьні зьдзекі, якія чыніліся і чыняцца над украінцамі, зьяўляюцца вынікам асаблівай садысцкай помсты былога агента КДБ людзям, якія салідарна выступілі ў абарону беларускай нацыі і дэмакратыі. Многім з іх за час знаходжаньня і зьдзекаў у турме падарвана здароўе, зьняважана іх чалавечая годнасьць".

Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык зьвярнуліся да беларускай, украінскай, польскай, літоўскай дыяспараў за мяжой з заклікам "узьняць свой голас пратэсту супраць бесчалавечнасьці і гвалту над украінскімі грамадзянамі з боку рэжыму Лукашэнкі".

**Ул.інф.**

## ЦІСНУЦЬ ЧАЎНАКА

**Пастанову, якая наўпрост датычыць дробных і буйных беларускіх бізнэсмэнаў, што маюць гешэфт на Украіне, прыняў нядаўна ўрад гэтай краіны.**

Паводле гэтага дакумента, на мытнай мяжы Украіны ўводзіцца новы жорсткі рэжым кантролю за ўвозам у краіну алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў, на якія ўстаноўлены акцызны збор.

Зараз умовай пропуску праз мяжу Украіны вышэйназваных найменьняў тавараў зьяўляецца "прадстаўленьне украінскім мытнікам копіі плацёжнага даручэньня, завізаванага мытняй па месцы дзяржаўнай рэгістрацыі суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасьці, на агульную суму абавязковых плацяжоў у дзяржбюджэт (пошліна, акцызны збор, падатак на дабаўленую вартасьць). Указаныя сродкі павінны быць пералічаны на дэпазітныя рахункі мытняў па месцы рэгістрацыі суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасьці".

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## НАС ГУБЯЦЬ - І ЛЮБЯЦЬ?

Учора, на традыцыйнай прэс-канферэнцыі у аблвыканкаме перад журналістамі выступіў і намесьнік начальніка нядаўна створанага ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Мікалай Прысада. Тлумачачы мэты новай структуры, Мікалай Яфімавіч асабліва адзначыў магчымасьць будучай дапамогі палітычным партыям, грамадзкім арганізацыям. І прывёў прыклад: рэдакцыю "ПАГОНІ" высяляюць з абжытых памяшканьняў на вуліцу К.Маркса,11, дзе, як сказаў сп.Прысада, "условия хуже, чем в туалете на вокзале, поэтому надо будет разобраться, помочь".

Мы ўзрушаныя бацькоўскім клопатам. І ўдзячныя. Толькі, можа быць, ня трэба нас высяляць, тады і ў разьбірльніцтве ды дапамозе не будзе патрэбы?..

Астатнія падрабязнасьці - у наступным нумары.

**Лявон ХРАПТОВІЧ.**

## СМАРГОНСКІ "ПАГАРЭЛЕЦ"

**Смаргонскі гравыканкам сваім рашэньнем выдзяліў дзяржаўную кватэру намесьніку старшыні гарвыканкаму Г.Сафронаву з так званага "падменнага фонду".**

Гараджане ніяк ня ўцямяць, як можна даваць без чаргі кватэру чалавеку, які амаль скончыў будаўніцтва ўласнага дома і меў пакой у інтэрнаце. Можа гэты пакой згарэў?

Пракуратура Смаргонскага раёну не змагла юрыдычна абгрунтаваць дзеяньні гарвыканкаму, спаслаўшыся на тое, што кватэра выдзелена з дазволу найвышэйшага абласнога "вертыкальнага" - А.Дубко. Застаецца толькі меркаваць, што ў дзяржаве пануе права сілы, а ня сіла права. Юрыдычна такі стан будзе "афармляцца" рукамі выбаршчыкаў на маючым адбыцца рэферэндуме.

**А.ДЗЕРГАЧОЎ.**

## ЗУСІМ СТРАХ ЗГУБІЛІ?

30 жніўня з аўтастаянкі каля гарсавету быў скрадзены новы службовы аўтамабіль старшыні гарсавету спадара Фёдара Гудзея. Злачынцы пакуль ня знойдзены.

**Д.К.**

## БАШ НА БАШ!

Вернападданьніцкі зварот да А.Лукашэнкі прыняў сход працоўнага калектыву Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб'яднаньня. Агучыў тэкст на сходзе генеральны дырэктар Ігар Тупіца. Пачынаецца зварот узвышана: "Сердцем и разумом принял коллектив..." і гэтак далей. Словам, тэкстыльшчыкі адзінадушна падтрымліваюць ідэю Прэзідэнта прыняць новую Канстытуцыю. Узамен жа хочуць ад яго падтрымкі ў змаганьні з "Гродноаэнерга", якое пагражае адключыць іх вытворчасьць ад энергазабесьпячэньня і забраць ведамасную кацельню (якая дае тонкасуконнаму аб'яднаньню кожны месяц 500-600 мільёнаў рублёў прыбытку).

Нагадаем, што ўжо працяглы час само тонкасуконнае аб'яднаньне не працуе.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## ЗАЯЎЛЕНЕ ПРЫЗЫДЭНТУ

Уважаемы таварышч Прызыдэнт! Вы, как ядзінственны чэсны чалавек у міры, каторы ні кагда не врот, чацьвёртага сенцябра па тэлявізару адкрылі народу яшчо адну праўду пра БНФ. Аказваецца каждый учаснік мітынгаф у Мінску палучыў па 20 доляраў. Таварышч прызыдэнт я Вас очань люблю і уважаю. Но за урэмя вашага прызыдэнства, савсем не стала за што жыць. Не маглі бы Вы сказаць па тэлявізару кагда апяць врагі будут міцінгаваці. Што б ні толька ім дасталісь грошы, но і Вашым паклоннікам, я абязацяльна паеду у Мінск. Тем, хто Вас любіт, тожа хочацца кушаць.

**Марыя КУЛЬГАВАЯ.**

## ПРАФСАЮЗ СУПРАЦЬ "МЫЛЬНІЦЫ"

Шырокае распаўсюджаньне аўтаматызаваных фоталабараторый з аднаго боку прыпыняе фотааматарскі рух. З іншага боку - ставіць у цяжкае становішча людзей, якія зарабляюць на жыцьцё фатаграфіяй. "Здымка "мыльніцай", якая рэкламуецца, на самой справе - абалваньваньне спажыўца. Нас пазбаўляюць куска хлеба", - кажа вядомы гарадзенскі фатограф М.Анішчанка.

Таму група фатографаў выступіла з ініцыятывай стварэньня свайго прафесійнага саюзу (на Беларусі - першага), мэта якога - абарона правоў фатографаў і абарона самой фатаграфіі - унікальнай, непаўторнай, аўтарскай. Просьба да ўсіх зацікаўленых фатографаў вобласьці: адгукніцеся. Кантактны тэлефон у Горадні - 33-27-97 (увечары).

**Л.Д.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПОЗНА, ДЗЯДЗЬКІ, ПІЦЬ "БАРЖОМІ"

**2 верасьня пачала працу другая сесія Вярхоўнага Савету. З уступным словам выступіў старшыня Вярхоўнага Савету сп.С.Шарэцкі. Ён сканцэнтраваў увагу на маючым адбыцца рэферэндуме і, асабліва, на пытаньні аб зьмене Канстытуцыі. Сьпікер падкрэсьліў, што ў новай Канстытуцыі - "усё новае": "і *зусім новая структура*, і зусім іншыя правы Вярхоўнага Савету, і зусім іншыя правы Прэзідэнта".**

Шарэцкі адзначыў, што гісторыя ведае выпадкі, калі ўлада ў асобных краінах канцэнтравалася ў руках аднаго чалавека... Але ж "Прэзідэнтам можа быць чалавек хворы, псіхалагічна неўраўнаважаны", - папярэдзіў Сямён Шарэцкі, паколькі існуючая Канстытуцыя не прадугледжвае прахаджэньня прэзідэнтам медыцынскага агляду.

Сьпікер прапанаваў дэпутатам прызначыць дату рэферэндуму, зацьвердзіць пытаньні і разьехацца па выбарчых акругах, "каб дапамагчы сваім выбарчыкам разабрацца ў сапраўдных мэтах маючага адбыцца рэферэндуму. Ніякіх сумненьняў, што Канстытуцыя, якая прапануецца Прэзідэнтам, калі яна будзе прынята на рэферэндуме, установіць дыктатуру", - заявіў Сямён Шарэцкі.

**P.S.: Наш карэспандэнт у сераду раніцай гутарыў па тэлефоне з Анатолем Лябедзькам - дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Ашмянскай акругі. Згодна той інфармацыі, якую ён меў на момант размовы, пытаньне рэферэндуму павінна было быць разгледжана парламантам не пазьней суботы 7 верасьня. У гэты дзень заканчваецца месячны тэрмін пасьля падачы Аляксандрам Лукашэнкам ў Вярхоўны Савет прапаноў аб правядзеньні рэферэндуму.**

**Анатоль Лябедзька пацьвердзіў інфармацыю, што ў фракцыях парламанту пачаўся збор подпісаў за недавер або імпічмент прэзідэнту.**




## ВЫБАРШЧЫКІ ПАТРАБАВАЛІ ІМПІЧМЭНТ

Увечары першага дня сесіі ў Менску адбылася сустрэча дэпутатаў з выбаршчыкамі. Праводзіць гэтае мерапрыемства на плошчы Незалежнасьці забаранілі Менгарвыканкам. Таму сустрэчу, на якой прысутнічала каля 7 тысячаў чалавек, правялі на тэрыторыі выбарчай акругі дэпутата С.Багданкевіча - насупраць пляца Чыгуначнікаў. Выступалі ня толькі дэпутаты, але і прадстаўнікі розных палітычных партый, моладзь, ветэраны. Была прынята рэзалюцыя з патрабаваньнем да дэпутатаў Вярхоўнага Савету ініцыяваць працэдуру імпічмэнту прэзідэнту А.Лукашэнку.

## ШЧАРБІНІН ТАКСАМА ХОЧА ПАРАІЦЦА З НАРОДАМ

**Створана яшчэ адна ініцыятыўная група, якая на рэферэндум прапануе ўнесьці 5 пытаньняў. Старшынём групы абраны Генадзь Шчарбінін, адным з намесьнікаў - дэпутат Анатоль Лябедзька. Яны ўжо сабралі неабходную для ініцыяваньня колькасьць галасоў і падалі ў выбарчую камісію дакументы на рэгістрацыю. Гэта група прапануе паралельна з пытаньнямі Аляксандра Рыгоравіча ўключыць свае:**

1. Ці лічыце Вы, што кіраўнікі выканаўчых ворганаў улады, гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца насельніцтвам адпаведнага рэгіёну тэрмінам на 4 гады?

2. Ці лічыце Вы, што заработная плата, пеньсіі, стыпендыі і дзяржаўныя дапамогі павінны выплочвацца своечасова і іх месячнае падвышэньне павінна адпавядаць росту цэнаў?

3. Ці лічыце Вы, што Рэспубліка Беларусь павінна быць нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавай, якая не ўваходзіць у ваенныя саюзы?

4. Ці лічыце Вы, што чарговыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь павінны адбыцца ў 1999 годзе?

5. Ці лічыце Вы, што эканамічная палітыка, якую з 1994 году праводзіць выканаўчая ўлада, прывяла да павышэньня вашага жыцьцёвага ўзроўню?

Першыя чатыры пытаньні прапануюцца ў якасьці абавязковых, пятае – кансультатыўнае.

**Л.ВАЛЫНЕЦ.**

## ДУБІНУ ДЫКТАТАРА — ЛУКАШЭНКУ АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ!

**26 жніўня інфармацыйныя агенцтвы разьнесьлі незвычайную вестку. Былы прэзідэнт і крывавы дыктарар Паўднёвай Карэі Чон Ду Хван прыгавораны да "вышкі", г.зн. да вышэйшай меры пакараньня за арганізацыю дзяржаўнага перавароту ў 1979 годзе і за расстрэл мірнай дэманстрацыі ў г.Кванджу ў 1980 годзе.**

**Другі былы прэзідэнт Ро Дэ У прыгавораны да пажыцьцёвага зьняволеньня за карупцыю і шматмільённы хабар.**

Напярэдадні новага рэферэндуму ў Беларусі гісторыя папярэджвае і напаўдыктатарствуючага беларускага прэзідэнта: "Глядзі, чалавеча, і думай..."

Справа ў тым, што ён усімі сіламі рвецца да дыктатуры, і гэта дыктатарства яму павінен даць абвешчаны рэферэндум. І, на мой погляд, ён яго атрымае. Падкрэсьліваю, на рэферэндуме Лукашэнка атрымае поўны карт-бланш і дубіну дыктатара. Для гэтага ёсьць усе падставы, бо народ ужо "сазрэл". І "сазрэл" народ з дапамогай сёньняшніх кіраўнікоў Беларусі.

Адзін з куміраў беларускага прэзідэнта Лукашэнкі - дыктарар Германіі Адольф Гітлер казаў: "Народ - гэта статак бараноў, ён пойдзе за сваім важаком хоць на бойню". Праўда, беларускі народ пакуль яшчэ ня стаў статкам бараноў. Але ўжо дайшоў, дзякуючы сёньняшняму кіраўніцтву, да паўжывёльнага стану. Ён ужо баіцца ўсяго: баіцца, што яму ня выплацяць зарплату, што застанецца без працы, баіцца, што жабрацкай пеньсіі ня хопіць і на палову месяца, баіцца злачынцаў і рабаўнікоў, рэкецёраў і г.д. Баіцца ў тым ліку і рознага роду рабаўнікоў як з крымінальных структураў, так і з дзяржаўных. І таму насельніцтва Беларусі ў гэтым сваім паўжывёльным стане, страху і ўручыць Лукашэнку дубіну дыктатара. Такім чынам, шлях яму ў дыктатары адкрыты.

Але мудрая багіня гісторыі Кліа гэтым прысудам з Паўднёвай Карэі так і гаворыць: "Маючы вушы да пачуе, маючы вочы да пабачыць, маючы хоць трошкі розуму ды падумае".

А думаць ёсьць пра што.

Дыктатара Італіі Мусаліні расстралялі і падвесілі за ногі на плошчы. Пасьля Мусаліні Італія атрымала нестабільнасьць у грамадстве, рэпарацыі, ваенныя базы іншых дзяржаў, недавер да ўраду і г.д.

Дыктатар Румыніі Чаушэску расстраляны, як сабака пад плотам. Пасьля Чаушэску Румынія атрымала развaленую эканоміку, нестабільнае грамадства, зьбядненне народу. Румынія была на мяжы грамадзянскай вайны.

Абкладзены ў бункеры абуранымі нацыямі, як скарпіён атруціўся кумір Лукашэнкі – дыктатар Германіі – людажэрца Гітлер. Пасьля Гітлера Германія атрымала разруху, развал эканомікі, жабрацтва, залежнасьць ад пераможцаў, рэпарацыі і г.д. На доўгія гады цела Германіі было падзелена на кавалкі.

Пасьля дыктатара Югаславіі Ціта страна атрымала цэлы букет разлажэньняў рознага толку, плюс грамадзянскую вайну і сьмерць простых людзей на многія гады.

Што атрымалі народы былога СССР пасьля падзеньня дыктатуры бальшавікоў - мы ўсе добра ведаем, бо ўсё адбываецца на нашых вачах. Набор той самы: развал, разруха, зьбядненне, карупцыя, сьмерць простых грамадзян, бандытызм і г.д. Плюс грамадзянскую ці міжусобную вайну ў многіх рэгіёнах.

І толькі нязначная частка тых прыкладаў, на якія гісторыя прапануе зірнуць беларускаму прэзідэнту Лукашэнку, найперш, чым ён, атрымаўшы дубіну дыктатара, улезе на дыктатарскі прастол.

Вышэй я падкрэсьліваў тое, за якія парушэньні былі прыгавораны да жорсткага пакараньня былыя прэзідэнты Паўднёвай Карэі.

Ро Дэ У - за карупцыю і шматмільённыя хабары.

Кожны жыхар Беларусі бачыць, як шыкоўна жыве лукашэнкаўскае атачэньне, так званая лукашэнкаўская каманда, і, параўноўваючы магчымасьці, задумваецца: "А на якія шышы? Я ж жабрак... Значыць..." І кожны нявольна думае: "Крадуць!"

Чон Ду Хван прыгавораны да "вышкі" за арганізацыю дзяржаўнага перавароту і за расстрэл мірнай дэманстрацыі жыхароў горада Кванджу.

Зьбіеньне чарнобыльскіх маніфестантаў у Менску і блізка не падобнае да расстрэлу ў Кванджу. Але ў красавіку Лукашэнка быў, хаця і напаўдыктатарствуючы, але пакуль яшчэ проста прэзідэнт. А атрымаўшы паўнамоцтвы і дубіну дыктатара, ох, як яшчэ захочацца гэтай дубінай памахаць. І паказаць усім сваё празьмерна разьдзьмутае "Я", бо "апетит приходит во время еды"!

Цяпер пра рэферэндум і зьмену Канстытуцыі...

Пачну з Канстытуцыі. Дзіўнае наша паўазіяцкае дзяржаўнае грамадства ў сваёй непавазе да сваёй жа Канстытуцыі. Варта прыйсьці новаму кіраўніку на трон, як адразу ж ён мяняе Канстытуцыю. У дэмакратычных цывілізаваных краінах Канстытуцыя існуе без зьмяненьняў сотні гадоў. І кожны новы кіраўнік павінен падпарадкоўвацца пад Канстытуцыю. У нас жа наадварот. Прынята зьмяняць Канстытуцыю пад кожнага новага кіраўніка. Колькі іх ужо было! І кіраўнікоў, і Канстытуцый!

Ну што ж, усё правільна! Інакш не атрымаеш трон і дубіну дыктатара!

Адносна дзяржаўнага перавароту. Нежаданьне праводзіць давыбары ў Вярхоўны Савет, нежаданьне лічыцца з думкай Вярхоўнага Савету, нежаданьне лічыцца з Канстытуцыйным судом, а жаданьне падмяць пад сябе і падпарадкаваць сабе ўсе галіны вышэйшай улады і сам рэферэндум - гэта ўсё адно - парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. А парушэньне асноўнага закона дзяржавы - Канстытуцыі - і ёсьць дзяржаўны пераварот. Такім чынам, справа рухаецца да новага дзяржаўнага перавароту.

Народ пакуль церпіць і парушэньне Канстытуцыі, і карупцыю, і голад, і разгул злачыннасьці, і дарагавізну, і г.д. Церпіць спадзеючыся на перамены да лепшага. Бо наш народ самы цярплівы, самы спакойны, самы ўраўнаважаны. Але гэтых пераменаў да лепшага не прадбачыцца. Наадварот, напярэдзе маячыцца дыктатарства з усімі яго цяжкімі наступствамі.

І мне не зразумела, чым так не дагадзіў, чым так не спадабаўся Лукашэнку гэты спакойны, ураўнаважаны беларускі народ, што ён такімі метадамі выпрабоўвае яго цярплівасьць і штурхае яго сваімі дзеяньнямі да супраціўленьня, да непадпарадкаваньня, да выбуху. Навошта пладзіць сабе ворагаў? Навошта штурхаць людзей ад сябе ў іншы лагер? Няўжо надакучыла мірна жыць?

Мы ня ўмеем вучыцца на чужых памылках, хаця гісторыя і прапануе нам гэтую вучобу. Мы ня ўмеем карыстацца досьведам чужых. Прыкра, але мы ня ўмеем станавіцца разумнейшымі, дзякуючы чужым памылкам і чужому досьведу. Для гэтага патрэбны розум. У старажытнавізантыйскім зборніку, перакладзеным на Русі яшчэ ў XII стагоддзі, гаворыцца: "Велику власть принимающему велик подобает ум имети".

Розум мець, але не дыктатарскую дубіну!

**Р.РЫПА.**

## "ВЕРТЫКАЛЬ" І УНС

**Вы ведаеце, што гэта за абрэвіятура - УНС (ня блытайце ні ў якім разе з УНА-УНСА!)? Гэта "Усебеларускі народны сход", які Адміністрацыя Прэзідэнта рыхтуе на 19 кастрычніка. УНС павінен "единодушно" падтрымаць прэзідэнцкі праект Канстытуцыі.**

"Вертыкаль" атрымала загад распачаць прапагандысцкую акцыю.

Праўда, складваецца ўражаньне, што абласное ды гарадское начальства пакуль ня вельмі сьпяшаецца з выкананьнем. Нічога не чуваць пра сходы па вылучэньні дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу, абмеркаваньні кандыдатур.

Маўчаць на гэты конт афіцыйныя газеты. Пакуль усё абмежавалася тым, што ў аблвыканкаме стварылі камітэт на чале з намесьнікам кіраўніка абласной "вертыкалі" М.Калацэем.

Відаць, і нашае начальства цягне час. Чакае, што ж вырашыцца ў Менску на сесіі Вярхоўнага Савету. Чыя возьме? Вось тады і "вертыкаль" скажа сваё слова.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## ВЫРАТАВАНЬНЕ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

**На днях у Горадню завітаў лідар Беларускай Партыі Свабоды Сяргей Высоцкі. У нашым горадзе мала ведаюць пра БПС, бо дзейнасьць партыі пакуль абмяжоўвалася Менскам і усходняй часткай Беларусі. Таму, на нашу думку, чытачоў "ПАГОНІ" зацікавіць гутарка са сп.Высоцкім.**

***- Спадар Сяргей, што ўяўляе сабой ваша партыя, якія яе мэты?***

- Беларуская Партыя Свабоды - правакансерватыўная патрыятычная партыя. Адзіная ў сваім родзе. Мы імкнемся аб'яднаць і камуністаў і дэмакратаў на глебе патрыятызму. Наша мэта - пабудова моцнай і незалежнай беларускай дзяржавы.

Зараз БПС аб'яўшчае лозунг нацыянальнай рэвалюцыі. Бо ў народзе нарастае супраціўленьне дзеяньням антыбеларускіх сіл. "Товарищем" прэзідэнтам створаны ўсе ўмовы для таго, каб замест рэферэндуму атрымаць народную рэвалюцыю.

***- Рэвалюцыя - гэта гучыць жорстка. Ці не вядуць вашыя дзеяньні да грамадзянскай вайны?***

- Не! Небясьпеку грамадзянскай вайны нясе як раз плануемы рэферэндум. Прыкладам можа быць мінулагодні рэферэндум, калі былі выпадкі сварак, нават бок, паміж бліжэйшымі суседзямі з-за таго, хто як галасаваў. Ногул, рэферэндумы - звычка дыктатараў. Гітлер таксама любіў "раіцца з народам". Большасьць краін сьвету адмаўляецца ад рэферэндумаў, бо пры іх растоптваюцца правы меншасьці. Павялічваецца раскол у грамадстве. У нас, калі адбудзецца рэферэндум, усталюецца дыктатура былога дырэктара саўгасу на дзесяткі гадоў. Выратаваньне – нацыянальная рэвалюцыя. Накштальт тых, якія адбыліся ў краінах Усходняй Эўропы (Венгрыя, Чэхія і г.д.). Сінонімам нашай рэвалюцыі мусіць быць парадак - парадак у моцным, багатым Беларускім Доме.

***- Але ў гэтых краінах іншы ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці. Ці ёсьць ўмовы для нацыянальнай рэвалюцыі ў Беларусі?***

- Народ паўсюль аднолькавы. Проста, па розных прычынах, у нас працэс кансалідацыі нацыі завяршаецца ў канцы XX стагоддзя. Вясновыя падзеі паказалі - воля да свабоды прачнулася ў беларускім народзе. 24 сакавіка я бачыў, як тры амапаўцы зьбівалі дзяўчыну. Але яна не прасілася і не ўцякала, а змагалася з імі. Такога ў Беларусі яшчэ не было!

Зараз нараджаецца нацыянальная эліта. Менавіта яна абавязана несьці адказнасьць за лёс Айчыны.

***- Але ж Лукашэнка і яго асяроддзе лічаць, што эліта гэта яны.***

- Ня могуць быць элітай нацыі людзі, якія прывялі да заняпаду эканомікі. Пад час, калі народ не атрымлівае зарплату, пеньсіянеры жывуць на мяжы голаду, дзеці хвараюць ад недахопу вітамінаў, кіраўнік дзяржавы шыкуе. Купляе сабе самалёт, захоплівае лепшыя будынкі, будуе ў Драздах цэлы гарадок. Пры страшэнным зьбядненьні народу, прэзідэнт жыве лепш, чым арабскі шах.

У такіх людзей адзін крытэрый - браць у народу чым больш, выкарыстоўваючы падман і правакацыі. Нашыя хлопцы сьвядома ідуць на ахвяры за свае погляды, за імкненьне ратаваць краіну. Не шукаюць нешта для сябе, а змагаюцца за Айчыну.

***- З чым зьвязаны ваш прыезд у Горадню?***

- Горадня - горад, які зьяўляецца другой, духоўнай сталіцай Беларусі. Не нармальна, што ў горадзе з такім узроўнем культуры, з такімі нацыянальнымі традыцыямі няма правага руху. Існуюць дэмакратычныя партыі, да якіх мы ставімся з павагай. Але павінна быць і патрыятычная.



***- Вы спадзяецеся ўтварыць у нас філію БПС?***

- Я распавёў многім людзям пра нашу арганізацыю, пра яе мэты. Горадня падрыхтаваная ўспрыняць нашы ідэі. Мне падалося, што ў вас склалася сітуацыя чаканьня. Людзі чакаюць зьяўленьня той сілы, якая можа весьці бескампрамісную нацыянальна-вызваленчую барацьбу за волю і заможнасьць Бацькаўшчыны. Я ўпэўнены, што Горадня стане мацнейшай апорай беларускага патрыятычнага руху. Праз вашу газету хачу паведаміць усім зацікаўленым адрас, па якім яны могуць са мной зьвязацца: **г.Менск, т.т. 62-22-61, 62-61-18.**

**Гутарыў Дз.КІСЕЛЬ.**







# ПРЭЗІДЭНТ ДБАЕ ПРА ЎСІХ РАЗАМ І ПРА КОЖНАГА ПААСОБКУ

**Напярэдадні рэферэндуму Прэзідэнт Беларусі выдаў шэраг сваіх указаў, якія павінны, на думку кіраўніцтва, забясьпечыць падтрымку розных слаёў насельніцтва.**

Так, указам N 344 ад 30 жніўня ён пастанавіў, што кіраўнікі прадпрыемстваў, незалежна ад формы ўласнасьці, павінны пагасіць запазычанасьць па зарплаце да 20 кастрычніка. Тых, хто ня здолее выканаць патрабаваньне, Прэзідэнт абяцае звольніць. Самае сьмешнае, што пасьля гэтага ўказу грошай на прадпрыемствах не прыбавіцца. І дзе іх шукаць дырэктару "усіх форм уласнасьці"? Другім асноўным неплацельшчыкам зьяўляюцца бюджэтныя ўстановы. Дзе яны возьмуць грошы, калі прадпрыемствы замест падаткаў выплацяць заробкі? Што тычыцца прыватных гаспадароў, то яны выплату заробкаў не затрымлівалі і без Прэзідэнта.

Сёньня па Гарадзеншчыне запазычанасьць працоўным складае па сельскай гаспадарцы 62 млрд.рублёў, па прамысловасьці - 12, па будаўніцтве - 2 мільярды. Пра якія "розныя формы ўласнасьці" ідзе гаворка, калі ўсе вінаватыя - дзяржаўныя прадпрыемствы (калгасы таксама)?

Сэнс 344-га ўказу, такім чынам, - перакласьці віну на дырэктароў, якія нібыта "мешают" своечасова плаціць заробкі.

Наступны, 345-ы ўказ, забараняе падвышаць цэны на хлеб, малако, тавары для дзяцей і на камбікорм да канца 1996 году. Цяпер падвышаць цэны забараняецца, а чаму раней было можна? Зноў вінаватыя нейкія невядомыя "зламысьнікі", павышаюць, бач ты, цэны і павышаюць! Прэзідэнт ужо неадназразова вяртаў цэны, спыняў рост курсу даляра. Вынік адзін - цэны расьлі, растуць і расьці будуць.

Указам N 343 А.Лукашэнка заснаваў 45 прэзідэнцкіх стыпендый студэнтам. Памер стыпендыі - 4 мінімальныя заробкі. Можна спрагназаваць, што гэтыя 45 студэнтаў ня пойдуць на мітынгі апазіцыі. Хаця студэнты - народ няўстойлівы...

У бліжэйшы час трэба чакаць новых указаў, у якіх рабочым перададуць станкі, настаўнікам - парты, а маракам - ваду. Пасьля рэферэндуму ўсё стане на свае месцы.

**Міхась КАПЯЛЮШ.**




# ЗАПАВЕДНІКАМ БЕЛАРУСІ ПАГРАЖАЕ НЕБЯСЬПЕКА ЗЬНІКНЕНЬНЯ

**Цяперашнюю агульную сітуацыю ў Беларусі можна назваць застоем, які назіраецца ва ўсіх сферах жыцьця краіны, у тым ліку і ў дзялянцы аховы прыроды й запаведніцкай справы.**

З пачаткам "перабудовы" у гэтай сферы адбыліся вялікія зьмены й паляпшэньні. Замест партыйных функцыянераў на кіруючыя становішчы ў запаведніках і адпаведных міністэрствах былі накіраваныя сапраўдныя сьпецыялісты: лесаводы, біёлагі, экологі. Скончыліся зьнішчаючыя ўсё жывое "царскія паляваньні". Дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка "Белавежская Пушча" стала Нацыянальным паркам, які атрымаў статус UNESCO "Біясферны запаведнік" і які быў занесены ў ліст аб'ектаў "Сусьветнай спадчыны".

Прыход да ўлады А.Лукашэнкі перакрэсьліў усе дасягненьні гэтага і іншых беларускіх запаведнікаў. Усе яны перайшлі пад апеку сьпецыяльна створанага Упраўленьня справамі Прэзідэнта.

Былі зьнятыя з кіруючых становішчаў сьпецыялісты ў міністэрствах і запаведніках. На іх месца пастаўленыя былыя старшыні калгасаў.

"Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік" ператвараўся апошнім часам у вялікую аграрна-жывёлагадоўчую гаспадарку, з дапамогай якой Адміністрацыя Прэзідэнта займаецца камерцыяй. Тут паскоранымі тэмпамі сякуць сасновы лес і каштоўнейшыя ў Эўропе дубровы, для аховы якіх калісьці, у 1969 годзе, і быў заснаваны гэты рэзерват. Тое ж самае адбываецца і ў Нацыянальным парку "Белавежская Пушча". Шырока вядомая несамавітая гісторыя пра драўляныя стойкі для шахтаў, якія Адміністрацыя Прэзідэнта зьбіралася прадаць Украіне. Указ зьверху – і ў нашых запаведніках была сьсечаная вялікая колькасьць цэнных дрэваў. Для інфармацыі, гэтыя стойкі пасьля так і згнілі ў лесе, бо "заламалі" такую цану, што іх ніхто не купіў.

Апрача загатоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і дрэва, Адміністрацыя Прэзідэнта "спускае" заказы на загатоўку дзічыны, грыбоў, ягадаў, мёду, лекарскіх траў для сваіх растаранаў і бараў, якіх зараз ужо цэлая сетка ў Менску. На адным навукова-практычным паседжаньні з боку новага кіраўніцтва прагучаў і довад і апраўданьне гэтых дзеяньняў: усё роўна, маўляў, усё гэта зьнікне, бо мясцовыя людзі пазьбіраюць. Замест выконваньня сваіх прафесійных абавязкаў ляснікі, егеры, навуковыя працаўнікі зараз робяць грошы для Адміністрацыі, а самі не атрымліваюць заробтную плату месяцамі.

Незразумелы ўпор робіцца на атрыманьне прыбытку ад паляваньня ў запаведніках замежных паляўнічых. Гэта прыводзіць да масавага адстрэлу аленяў, кабаноў, ваўкоў, якіх застаецца ўсё менш і менш. У канцы ж канцоў у Рэспубліцы ёсьць розныя звычайныя лясныя гаспадаркі, паляўнічыя заказьнікі і г.д., якія былі заснаваныя для такіх мэтаў. Замест пашырэньня плошчы запаведных лясоў, назіраем далучэньне іх да сельскагаспадарчых угоддзяў і распродаж унікальных лясных масіваў, балот, азёр, дзікай фаўны і флоры розным камерцыйным структурам. Цяпер нават прыгожая гасьцініца у "Белавежскай пушчы" ператварылася амаль што ў публічны дом.

Усе новыя заканадаўчыя палажэньні аб запаведніках, па якіх ажыцьцяўляецца іх кіраваньне і функцыянаваньне, Адміністрацыя Прэзідэнта завуалявала і падагнала пад "Закон аб асаблива ахоўных тэрыторыях", каб узаконіць свае злачынныя, рабаўніцкія дзеяньні.

На маю думку, мэтай гэтых мерапрыемстваў ёсьць атрыманьне прыбытку, які ідзе чыноўнікам з Адміністрацыі Прэзідэнта. Атрыманая валюта добра выдаткоўваецца на бескарысныя закупы і паездкі за мяжу. Туды ж ідуць і грошы ад міжнародных навуковых праектаў, якімі зараз чамусьці таксама распараджаецца прэзідэнт.

Вось так рабуецца і нішчыцца прырода запаведнікаў Адміністрацыяй нашага "усенароднa абранага прэзідэнта". Пры навуковых візітах экспертаў-эколагаў з розных міжнародных арганізацыяў хаваюцца ад іх вачэй злачынствы, учыненыя ў запаведніках. Гарэлкай ды падарункамі стараюцца купіць іх маўчаньне. Можна сабе ўявіць, да якога рэзанансу ў сьвеце можа прывесьці пазбаўленьне запаведніка аднаго з статусаў за невыкананьне міжнародных прыродаахоўных патрабаваньняў!

Ва ўсім вінаваты непрафесіяналізм, і таму нас яшчэ чакае шмат праблемаў. Усё гэта адбываецца, як у вядомай прымаўцы - "З гразі - ды ў князі". Усім людзям трэба займацца сваімі справамі: лесаводу -ахоўваць і вырошчваць лес, навукоўцу - вывучаць, настаўніку - вучыць, селяніну - вырошчваць хлеб... Тады і будзе толк.

**Язэп ГРАЦЭЎСКІ,**
**эколаг, НП "Белавежская Пушча".**

# МАЎЧАНЬНЕ "ЗАЛАТОГА" ПЯРА

**8 верасьня - Міжнародны дзень салідарнасьці журналістаў. У гэты дзень фашысты павесілі чэшскага журналіста Юліуса Фучыка. Гэтае сьвята было вялікай пашанай у былым камуністычным лагеры, хаця ніякім камуністам (у нашым разуменьні) Ю.Фучык ня быў. А зараз, страсаючы са стомленых ног пыл мінулага, наш брат-журналіст, падобна, гатовы забыцца і на гэтае сьвята.**

Забыцца на салідарнасьць журналісцкую? А што гэта такое?

Не забудзецца, як бы гэтага некаму ні хацелася, гісторыя з "белымі плямамі" у газетах. Зьдзек са свабоды слова і Закона аб друку, звальненьне рэдактароў, пакалечаныя лёсы... Дзейнічаючым рычагом скандалу быў нейкі гарадзенец - дарадца прэзідэнта. Маўр, які потым быў прагнаны па ўсіх правілах маўра. І што ж? Ледзьве сьціраўшы адбітак ад прэзідэнцкага сапага на сваім азадку, гэты чалавек тут жа быў прыняты ў адну "незалежную" і вельмі "дзелавую" газету на гучную пасаду палітычнага (падумаць тольці) аглядальніка!

Ай да журналісцкая салідарнасьць!

Бог ёсьць: колькі тут часу прайшло і на гэтую вельмі "дзелавую" газету абрынуўся гнеў прэзідэнта. І вось газета падае сігнал бедства і кліча журналісцкую раць на дапамогу. Спадзяецца на салідарнасьць.

Фарысейства? Сьвятая наіўнота?

Што думаў Мікалай Галко, калі па загаду Прэзідэнта і "велению сердца" заняў крэсла незаконна звольненага рэдактара Сярэдзіча? Што думае цяпер спадар Шыманскі, які з радасьцю заняў крэсла незаконна выкінутага рэдактара Галко? Што думае цяпер увесь калектыў "Народнай", які, стаўшы закрытай акцыянернай суполкай, "из под полы" атрымаў тое, што належала яму паводле права?..

А зьвязка Асінскі - Якубовіч? А Кернога - Дубовік? А "сарамлівае" маўчаньне пра закрыцьцё "Беларускай маладзёжнай", пра адміністрацыйныя зьдзекі над газетай "Свабода", "Радыё 101.2"...

Міжволі ўспамінаецца анекдот: "Калі прыйшлі "брацЬ" яўрэя, дык я маўчаў, бо я ня быў яўрэем. Калі арыштоўвалі ворагаў народу, я таксама маўчаў, бо я ня быў ворагам народу.

Калі на досьвітку апошнім забралі мяне, то наўкола была цішыня...

Маўчаньне - золата?

Ня ўсё, дзякуй нябёсам, у нас чорнае. Салідарнасьць у нашых шэрагах ёсьць. А ні наша, а ні ўся сусьветная журналістыка ня ведае выпадку, каб рэдактар якой-небудзь газеты срабаваў ноччу падпаліць рэдакцыю канкурэнта, як гэта спрэс і побач робяць уладальнікі камерцыйных шапікаў. Запалкамі мы не карыстаемся. Пёрамі, дарэчы, таксама. Уколы ў адрас іншых выданьняў на старонках газет вельмі рэдкія, хіба што вельмі дапячэ.

Але што мне думаць пра калегу, нават члена аднаго саюзу, які кладзе сабе ў кішэню шматмільённую зарплату з бюджэту, гэта значыць узятую з маёй кішэні, за тое, што праслаўляе чалавека, які прывёў гэты самы бюджэт да нуля? Я ў бюджэт кладу, а ён адтуль бярэ.

Мы будзем салідарныя, так?

**Лявон ДАЎГЯЛА,**
**сябра беларускага Саюзу журналістаў.**

# І З АТРУТЫ КАРЫСЬЦЬ...

Звыш 34 мільярдаў рублёў запланавана да канца году выдаткаваць у Горадні на ахову прыроды. Згодна з зацьверджанай нядаўна гарвыканкамам сьметай, 280 мільёнаў пойдзе на ліквідацыю звалак сьмецьця ў раёнах горада, 100 мільёнаў - на ачыстку парка імя Жылібера, 432 - на азеляненьне горада. Яшчэ 250 мільёнаў са сродкаў пазабюджэтнага фонду аховы прыроды атрымае да канца году заапарк. Асноўнай крыніцай прыбыткаў фонду зьяўляецца плата прадпрыемстваў за выкід шкодных рэчываў. Да канца году яе памер павінен дасягнуць 30 мільярдаў рублёў.

**В.ДРЭМА.**

# СУСТРЭЧА ЖУРНАЛІСТАЎ З ПРАДСТАЎНІКАМІ ДЗЯРЖКАМДРУКУ

**У Менску адбылася сустрэча прадстаўнікоў Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ) з першым намесьнікам старшыні Дзяржкамдруку сп.З.Прыгодзічам, намесьнікам начальніка Інфармацыйна-аналітычнага ўпраўленьня Дзяржкамдруку сп.Л.Ананіч і старшынём падкамісіі Вярхоўнага Савету РБ па СМІ сп.А.Дабравольскім.**

Прэзідэнт БАЖ сп.Ж.Літвіна выказала зьдзіўленьне тым станам, што да гэтага часу немагчыма нідзе ўбачыць праект закону аб дзяржаўнай падтрымцы СМІ. Аб праекце закона вядзецца шырокая гаворка на старонках дзяржаўнага друку. У гэтым праекце зноў адны выданьні падтрымліваюць дзяржаўную падтрымку, другія - не. Незразумела сістэма вызначэньня падтрымкі. Чаму, да прыкладу, "Знамя Юности" атрымлівае грошы падаткаплацельшчыкаў, а "ПАГОНЯ" не? Чаму фінансуюцца дзяржавай антыбеларускія выданьні, а беларускія не фінансуюцца?

Рознага роду рэпрэсіі пачынаюць узмацняцца менавіта зараз, перад рэферэндумам і выбарамі. У шмат якіх незалежных выданьнях працуюць зараз "прэзідэнцкія" рэвізійныя камісіі. На сустрэчы былі выказаны абурэньні журналістаў у сувязі з папярэджаньнямі Дзяржкамдруку. Ніхто не надаваў Дзяржкамдруку права вызначаць праўдзівасьць альбо непраўдзівасьць інфармацыі. Гэта права толькі суду.

І хоць прадстаўнікі Дзяржкамдруку паабяцалі ўлічыць усе ўнесеныя журналістамі прапановы - у гэта мала хто паверыў. Сістэму свабоды альбо несвабоды слова вызначае палітычная сітуацыя.

**Л.ВАЛЫНЕЦ.**

# СЬВЕЖЫ ХЛЕБ НЕ ХВАРЭЭ

**У рэдакцыю "ПАГОНІ" на мінулым тыдні зайшоў абураны жыхар Горадні спадар Саковіч. "Паглядзіце, чым кормяць народ", - сказаў ён, дастаўшы з сумкі бохан белага хлеба. У сярэдзіне хлеба мы ўбачылі камок зьліпшагася мякіша шэрага колеру. Ад хлеба ішоў непрыемны пах.**

За тлумачэньнямі мы зьвярнуліся да дырэктара завода спадарыні Валянціны Лашковай.

Высьветлілася, што ў хлебе, паветры і расьлінах існуюць бактэрыі, так званыя "бульбяныя палачкі". Пад час жніва яны могуць заразіць зерне. Пры нагрэве да 80 градусаў бактэрыі гінуць, але застаюцца іх споры. Яны няшкодныя для здароўя людзей, але пры доўгатэрміновым захоўваньні белага хлеба са спораў могуць адрадзіцца бактэрыі і выклікаць "бульбяную хваробу": Менавіта яна і псуе хлеб.

Атрымліваецца, што пекары не вінаватыя. Але што рабіць людзям?

У лабараторыі хлебазавода растлумачылі, што пазьбегнуць узьнікненьня "бульбяной хваробы" у хатніх умовах даволі проста. Для гэтага кантэйнер, у якім захоўваецца хлеб, трэба праціраць анучай, змочанай воцатам. Пажадана (у выпадку захоўваньня хлеба ў поліэтыленавых пакетах - неабходна) разразаць бохан на палову. Але лепш за ўсё спажываць сьвежы хлеб і захоўваць яго ня больш сутак.

Хлебазавод робіць усё магчымае, каб забясьпечыць гарадзенцаў сьвежым хлебам. Адчыненыя 6 завадзкіх крамаў, у якія прадукцыя паступае яшчэ гарачай. Плануецца адчыніць краму ў мікрараёне Дзевятоўка. Але гэта ў выпадку, калі ў пекараў хопіць грошай на аплату арэнды.

А з грашыма ўзьнікаюць праблемы. Ня ўсе гандлёвыя прадпрыемствы лічаць патрэбным разьлічвацца за прададзены хлеб. "Должники" завінавацілі хлебазаводу 2 мільярды рублёў.

**Дз.КІСЕЛЬ.**

# ХОЧАШ ЗАЙГРАЦЬ - ЗАПЛАЦІ ПАДАТАК

Менавіта так выглядае справа з музыкамі, якія граюць на вясельлі ці пахаваньні.

Днямі супрацоўнікі гарадзкой падатковай інсьпекцыі правялі рэйд па гарадзкіх вясельлях. Улоў быў невялікі. Большасьць музыкаў мела ліцэнзіі, але некалькі чалавек усё ж мусілі пісаць тлумачальныя запіскі і могуць атрымаць, на першы раз, штраф ад 2 да 10 мінімальных заробкаў. Да ведама будучых маладажонаў: ліцэнзіі павінны мець таксама фатографы і шафёры, якія абслугоўваюць вясельле.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# ПРЫВІТАНЬНЕ, СУСЕД

Уладамі Летувы прынята рашэньне арганізаваць новую газету, якая будзе выходзіць на Беларусі. Мэта гэтага выданьня - каб мы лепш ведалі суседзяў, з якімі нас зьвязвае 600-гадовая агульная гісторыя. Газета будзе выходзіць на рускай і беларускай мовах, рэдакцыя разьмесьціцца ў Горадні. Мяркуецца, што першы нумар выйдзе ўжо гэтай восеньню. Плануецца выдзеліць газетную плошчу палякам, немцам, татарам - усім нацыянальным меншасьцям Беларусі.

**А.НАРБУТ.**

